# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

**Банковае конто:** Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 27 (562) Нядзеля, 9 лепеня 1961 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Скапітуляваць Захад ня можа

Наш папярэдні артыкул аб бэрлінскім пытаньні («Перад вырашальным выпрабаваньнем», «Бацькаўшчына», 2. 6. 1961) мы закончылі сьцьверджаньнем, што Захад у справе Бэрліна ня можа пайсьці на ніякія ўступкі перад Савецкім Саюзам, бо **«такая капітуляцыя перад камунізмам у сілу далейшага разгортваньня падзеяў мусіла-б стацца пачаткам канца існаваньня вольнага сьвету».** Трэба заўсёды мецць наўвеце, што бэрлінскае пытаньне ня вымяраецца двума мільёнамі Немцаў, што жывуць у заходнім Бэрліне, але расьцягваецца на ўсю Нямеччыну, на цэлую Заходнюю Эўропу, а навет ад такога або іншага разьвязаньня гэтага пытаньня можа залежыць і будучы лёс цэлага сьвету. Такім чынам справа Бэрліна набірае значаньня глябальнага.

Сяньня стварылася парадаксальная сытуацыя, калі Захад шукае ўсякіх магчымых спосабаў, каб пераканаць Хрушчова, што ён у вабароне Бэрліна не паўстрымаецца ад зарызыкаваньня навет вайны. І наадварот, Хрушчоў, навучаны дасюлешнім дасьветчаньнем, ніяк ня хоча паверыць у гэтую наважанасьць Захаду.

Дык калі Саветы ўжо сяньня ня хочаць верыць у дэтэрмінацыю Захаду бараніць за ўсякую цану свае пазыцыі ў Бэрліне, улучна з рызыкай вайны, дык у выпадку скапітуляваньня ў справе Бэрліна наагул ужо не магло-б быць мовы аб нейкім сур'ёзным супраціве Захаду перад далейшым камуністычным наступам. Такая сытуацыя прывяла-б да нябывалага абнагленьня камуністычнага наступу супраць вольнага сьвету, перад якім не магло-б ужо быць сур'ёзнай абароны. З другога боку, пройгрыш у бэрлінскім пытаньні мусіў-бы адабраць народам вольнага сьвету ўсякую веру ў собскія сілы, веру ў магчымасьць далейшае абароны перад узмоцненай загрозай.

Пры такой сытуацыі ўжо ніхто ня мог-бы верыць словам Амэрыкі, а насельніцтва Заходняй Нямеччыны магло-б лёгка прыйсьці да перакананьня, што, не спадзяючыся помачы ад Захаду трэба шукаць супольнай мовы з Савецкім Саюзам. Вынік быў-бы той, што Нямеччына, спачатку заняла-б нэўтральную пазыцыю й мусіла-б выйсьці з абароннай і палітычнай сыстэмы Захаду, а пазьней, у сілу далейшых палітычных працэсаў, магла-б стацца зусім прасавецкай. Гісторыя ведае некалькі прыкладаў, калі Нямеччына, апынуўшыся ў крытычнай сытуацыі, шукала паразуменьня з Расеяй супраць эўрапэйскага Захаду.

Савецкі Саюз заўсёды ставіць бэрлінскае пытаньне зусім асобна й незалежна ад нямецкае праблемы, як цэласьці. Такая палітыка для бальшавікоў вельмі выгадная, бо яна ізалюе бэрлінскае пытаньне ад цэлага камплексу пытаньняў першараднае палітычнае вагі, у якім Бэрлін зьяўляецца толькі асобнай, але неадлучнай часткай. Таму зусім зразумела, што Захад стаўляе сяньня бэрлінскае пытаньне як часьць вялікай цэласьці. У першую чаргу робяць гэта самі Немцы.

У гэтым сэньсе асабліва важным было асьветчаньне прэзыдэнта заходнянямецкага парляманту Гэрстэнмаера, якое ён зрабіў у сваей прамове ў парляманьце 30-га чэрвеня. Выступаючы ад імя цэлага нямецкага народу, Гэрстэнмаер урачыста заявіў, **«што ня толькі тыя або іншыя дэталі, ня толькі пытаньне Бэрліна, ягонага будучага статуту й забясьпечаньня шляхоў доступу да яго, але пытаньне Нямеччыны, як цэласьці павінна быць пастаўленае на парадку дня».** Гэтак паставіўшы пытаньне, Гэрстэнмаер высунуў дамаганьне, што мірны дагавор павінен усяму нямецкаму народу загарантаваць магчымасьць карыстацца **«прынцыпамі роўнага права й самавызначэньня народаў»,** як гэта зафіксавана ў артыкуле першым Карты Задзіночаных Нацыяў.

Былы віцэ-прэзыдэнт ЗША Р. Ніксан у сваім артыкуле «Дазволім Хрушчову бурчэць ля бэрлінскай косьці» («Дэйлі Экспрэс», 22. 6. 1961) нядаўна пісаў: **«Перамога ў Бэрліне, хоць-бы навет абмежаваная, дала-б Хрушчову магчымасьць націску на розум і дух заходніх Немцаў, пра якіх яму ходзіць. А калі патрапіць захістаць веру заходніх Немцаў у канчальную перамогу сыстэмы свабоды, тады ён зможа зрабіць вялікі вылам у муры Захаду».**

Яшчэ далей пайшоў прэзыдэнт Кэнэды, які ўпяршыню паставіў афіцыяльна справу Бэрліна, зьвязваючы яе з камплексам пытаньняў ня толькі Нямеччыны, але й Сярэдня-Ўсходняй Эўропы. На паседжаньні Рады Бясьпечнасьці Дзяржавы, якое адбылося 28-га чэрвеня пад ягоным старшынствам, прэзыдэнт Кэнэды, прыймаючы вызаў Хрушчова гаварыць аб Бэрліне, выказаў згоду на перамовы, але ня толькі ў справе Бэрліна, а на тэму цэласьці нямецкай праблемы і ўсяе Ўсходняе Эўропы. Ён сказаў даслоўна: **«Гутаркі тады толькі будуць плодныя, калі Саветы прыймуць у Бэрліне і ў цэлай Эўропе прынцып самавызначэньня, які яны праклямуюць у іншых частках сьвету».** Калі за гэтымі словамі амэрыканскага прэзыдэнта пойдуць канкрэтныя чыны, дык адкрые гэта новую бачыну ў гісторыі дачыненьняў з Савецкім Саюзам. Гэта абазначала-б, што Захад наважаны ўзяць ініцыятыву ў свае рукі й ад абароны перад савецкім наступам перайсьці да контранаступу.

Упяршыню пасьля заканчэньня апошняе вайны вакол Бэрліна стварылася сытуацыя, калі абодвы ўзаемна варожыя бакі пачалі гаварыць адкрыта аб вайне, якая можа разгарэцца за Бэрлін, падобна як у 1939 годзе першым прэцэдэнсам да сьветавай бойні паслужыў Гданск. Сяньня ня толькі ў Вашынгтоне, але таксама ў Лёндане, Парыжы й Боне адкрыта абмяркоўваюцца пытаньні мабілізацыі сілаў і ваеннай гатоўнасьці на выпадак, калі-б Хрушчоў перацягнуў струну й стварыў сытуацыю, перад якой ня было-б іншага выхаду.

А такая сытуацыя, якая заіснавала сяньня, раней ці пазьней заіснаваць мусіла. Бесьперапынным уступкам Захаду й здаваньням ягоных пазыцыяў мусіў быць напасьледак паложаны канец. Гэткая сытуацыя можа мець і той збаўленны вынік, што Захад, пастаўлены ў бэрлінскім пытаньні перад канчатковым выпрабаваньнем, напасьледак зразумее ўсю веліч камуністычнай загрозы ў цэлым сьвеце й патрапіць належна ёй процiўдзеіць. Бо ў такім прынцыповым і скамплікаваным пытаньні, якім стаўся Бэрлін, скапітуляваць Захад ня можа.

**Язэп Каранеўскі**

# Сіла ці слабасьць Савецкага Саюзу

Сярод палітычных колаў Захаду пашыраная агульная думка, што Савецкі Саюз належыць да найбольшых ваенных магутнасьцяў сьвету ды што ў сувязі з гэтым трэба зь ім за ўсякую цану дамовіцца, каб такім чынам унікнуць магчымасьці выбуху новай сусьветнай вайны, спалучанай з атамнай бомбай і ўсімі трагічнымі вынікамі ўжыцьця гэтай жахлівай зброі. Можна зусім адкрыта сказаць, што ў аснове палітычнай тактыкі Захаду ў дачыненьні да Савецкага Саюзу за ўвесь пасьляваенны час ляжыць страх перад ягонай магутнасьцяй, перад тым, што ён можа пачаць вайну.

Паўстае пытаньне: наколькі гэты страх Захаду апраўданы? Ці запраўды Савецкі Саюз такі магутны, ці запраўды палітыка сілы, стасаваная супраць яго Захадам, можа прывесьці да выбуху атамнай вайны паміж Усходам і Захадам?

На нашу думку ўвесь гэты страх мае кароткія ногі. Гэты наш погляд прадыктаваны ня суб'ектыўнымі жаданьнямі палітычнага эмігранта, што ня здольны аб'ектыўна ацэньваць сытуацыі і кіруецца асабістымі эмоцыямі, а дакладным аналізам унутранага палажэньня ў Савецкім Саюзе.

Трэба цьвёрда падкрэсьліць: ня вонкавыя выявы сілы, ня блеф савецкай прапаганды, не пагрозьлівыя заявы Хрушчова акрэсьліваюць сілу ці слабасьць Савецкага Саюзу, а ўнутраная сытуацыя — сацыяльная, нацыянальная, эканамічная.

Як мы ўжо зазначылі, Захад бачыць галоўны элемэнт сілы СССР у савецкіх дасягненьнях у галіне атамнай і ракетнай зброі. Мы ня зьбіраемся запярэчваць гэтых дасягненьняў. Але, з другога боку, зусім фальшыва расцэньваць іх у адрыве ад унутраных дачыненьняў у Савецкім Саюзе, ад сярэдніх дасягненьняў, ад сярэдняга ўзроўню савецкай тэхнікі, арганізацыйнай ды эканамічнай структуры Савецкага Саюзу і, што найбольш важнае, ад агульных настрояў насельніцтва й ягонага стаўленьня да рэжыму.

Практыка паказвае, што галоўны элемэнт сілы Савецкага Саюзу, які дазволіў яму дасягнуць шэрагу палітычных удачаў, палягае ня ў атамнай і ракетнай зброі, а, гаворачы гандлёвымі катэгорыямі, у дасканала зарганізаваным экспарце ідэяў камунізму, у выкарыстоўваньні сацыяльных і нацыянальных канфліктаў у Азіі, Афрыцы ды навет Паўдзённай Амэрыцы — найчасьцей вынікаў нядаўняга каляніяльнага панаваньня. Няма сумліву, што камуністычная прапаганда, якая выстаўляе Маскву як абаронцу прагрэсу, якая пераняла на сябе ролю трубадура нацыянальнага вызваленьня, абаронцу й апякуна мільёнаў «прыгнечаных і галодных», карыстаецца не малым посьпехам у асяродзьдзі народаў, неазнаёмленых з запраўдным палажэньнем у самым СССР і з тайнымі мэтамі гэтай прапаганды. Дынамічная савецкая прапаганда пралажыла і пракладае далей шлях для камуністычнай інфільтрацыі й падрыўной дзейнасьці ў шмат-якіх краінах. Там, дзе пануюць голад, нястачы, сацыяльная несправядлівасьць, нацыянальнае паняволеньне — радыкальна-рэвалюцыйныя лёзунгі заўсёды будуць карыстацца сымпатыямі й папулярнасьцяй. Гэтыя лёзунгі Савецкі Саюз кідае масава ўва ўсе куткі сьвету, ня гледзячы на тое, што яны стаяць у яскравай супярэчнасьці з унутранай сытуацыяй у СССР.

У гэтым і палягае галоўная сіла Савецкага Саюзу. І гэта дало падставу Хрушчову грунтоўна зьмяніць тактыку Савецкага Саюзу. Ён вырашыў, што для Савецкага Саюзу куды выгадней пакінуць тактыку, разьлічаную на адкрыты ваенны канфлікт паміж «сацыялістычнымі» й «капіталістычнымі» краінамі, і перайсьці да тактыкі «суіснаваньня», гэта значыць «мірнага» праніканьня камунізму. Выглядае, што, на ягоную думку, ваенныя канфлікты большага, а то й сусьветнага маштабу — ня выгадныя для пашырэньня камунізму ў цэлым сьвеце.

Асноўнай прычынай адыходу камуністых ад сваёй старой тактыкі, якая мае яшчэ шмат прыхільнікаў у Кітаі, зьяўляецца сьведамасьць крамлёўскіх валадароў, што вайна азначала-б ліквідацыю іхнай імпэрыі. Яны лепш за Захад ведаюць свае ўласныя сілы. Яны дасканала ведаюць, што толькі эвалюцыйны шлях разьвіцьця падзеяў дае ім шансы існаваць і, эвэнтуальна, нешта выйграць, а, у першую чаргу, разьвязаць унутраныя супярэчнасьці свае імпэрыі, якія зьяўляюцца галоўным элемэнтам слабасьці Савецкага Саюзу. І таму, на нашу думку, савецкія валадары больш як хто іншы баяцца выбуху сусьветнай вайны.

Кожны, хто хоць крыху сочыць за разьвіцьцём падзеяў у Савецкім Саюзе, а таксама ў сатэлітных краінах, дзе грамадзкія працэсы праходзяць меньш-больш падобна, мусіць сьцьвердзіць, што ўнутраныя супярэчнасьці там не памяншаюцца, але завайстраюцца.

Галоўнай рысай савецкай эканомікі апошніх год зьяўляецца цыкль крызісаў, якія выплываюць з фальшывага ладу савецкага гаспадарчага жыцьця. Ня гледзячы на ўсе «рэформы» Хрушчова, ас-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Новая фаза маскоўска-пэкінскага канфлікту

Паводля некаторых вестак, канфлікт паміж кампартыямі Савецкага Саюзу і Кітаю ўвайшоў цяпер у новую фазу. Хрушчоў адкрыў супраць Мао Цзе-дуна гураганны агонь абвінавачаньняў. Аб гэтым паведаміў 2 ліпеня ў лёнданскай газэце «Сандэй Таймс» ведамы спэцыялісты савецкіх справаў Дойчэр. Хрушчоў, — піша Дойчэр. — абвінавачвае кіраўніка кітайскіх камуністых у «неляяльнасьці», «падрыўной дзейнасьці» і ў «распальваньні сусьветнай вайны». Ён таксама пагражае Мао Цзэ-дуну, што ён абвесьціць аб канфлікце паміж абедзьвюма кампартыямі — канфлікце, які дасюль трымаўся ў тайніцы, або напоўтайніцы.

Абвінавачаньні й пагрозы зьмешчаныя ў дакуманьце, толькі-што разасланым з Масквы шэрагу замежных кампартыяў. У дакуманьце гаворыцца між іншага, што Мао Цзэ-дун і ягоныя паплечнікі парушаюць пагадненьне 81 кампартыі, падпісанае ў Маскве толькі ў лістападзе мінулага году.

Як ведама, гэтае пагадненьне, распрацаванае ў выніку доўгіх перамоваў, павінна было прывесьці да ідэялягічнага міру паміж Масквой і Пэкінам. На дамаганьне Хрушчова, кампартыі выказаліся за прынцып «мірнага суіснаваньня» і супраць гэтак званага «экспарту рэвалюцыі». Але, на дамаганьне Кітайцаў, пагадненьне заклікала таксама краіны савецкага блёку да рашучага змаганьня супраць «экспарту контррэвалюцыі заходнім імпэрыялізмам».

Часткова пад ціскам Кітайцаў Хрушчоў перайшоў да больш энэргічнай вонкавай плітыкі, узнавіў свае дамаганьні адносна Бэрліну, абвесьціў аб заплянаваным падпісаньні сэпаратнай мірнай умовы з Усходняй Нямеччынай і адмовіўся падпісаць пагадненьне з заходнімі краінамі аб забароне ядзерных выпрабаваньняў.

У свой час маскоўская дэклярацыя была абвешчаная гістарычнай падзеяй. Ейны зьмест павінен быў быць абавязковым для ўсіх кампартыяў. Як тады здавалася, Кітайцы прызналі кіраўнічую ролю КПСС і забавязаліся падаваць на разгляд таварыскага суду ўсе новыя разыходжаньні з савецкімі камуністымі. І вось цяпер Масква цьвердзіць, што Кітайцы парушылі амаль усе пункты гэтага пагадненьня.

**Папершае:** «Кітайскія таварышы вядуць падпольную агітацыю супраць прынцыпаў маскоўскай дэклярацыі» — у першую чаргу супраць «прынцыпу мірнага суіснаваньня»;

**Падругое:** Яны «не выкарыстоўваюць працэдуры, прадбачанае дзеля залагоджваньня канфліктаў» паміж паасобнымі кампартыямі;

**Патрэйцяе:** Яны й далей «дыскрэдытуюць кіраўніцтва КПСС і намагаюцца пашырыць свой уплыў на іншыя кампартыі». Яны пасылаюць заграніцу людзей, якія ствараюць «кітайскія фракцыі» у замежных кампартыях, такім чынам «груба парушаючы ленінскія прынцыпы партыйнай арганізацыі»; і, урэшце,

**Пачацьвертае:** яны стварылі адмысловыя цэнтры ў Эўропе, Азіі й Афрыцы, пры дапамозе якіх яны вядуць свае «падрыўныя інтрыгі» супраць КПСС.

У дакуманьце, разасланым гэтымі днямі з Масквы, ёсьць цэлы шэраг сэнсацыйных навінаў адносна савецка-кітайскага канфлікту — навінаў, якія кідаюць новае сьвятло на некаторыя важныя падзеі апошніх гадоў.

Прыкладам, Хрушчоў абвінавачвае Мао Цзэ-дуна ў тым, што ён «звар'яваны на тайваньскім пытаньні» і поўны рашучасьці «вызваліць» Тайвань, рызыкуючы нават сусьветнай вайной.

«Кампартыя Кітаю, — гаворыцца ў дакуманьце, — ня ведае, як абыходзіцца з паасобнымі пытаньнямі ў парадку іхнага запраўднага значэньня. Яна робіць Тайвань цэнтрам усяе свае палітыкі, ігнаруючы пры гэтым разьвіцьцё міжнароднага палажэньня. У гэтым дачыненьні захаваньне кітайскіх камуністых зусім розьніцца ад захаваньня савецкіх камуністых пасьля падпісаньня Берасьцейскага міру, які пазбавіў савецкую рэспубліку часткі ягонай тэрыторыі».

«У той час, як нашы інтарэсы, — гаворыцца далей у новым маскоўскім дакуманце. — больш чымся калі-небудзь вымагаюць ад нас праводжаньня рашучай палітыкі суіснаваньня з варожымі да сацыялізму дзяржавамі кіраўніцтва кампартыі Кітаю ганіць кожны наш крок у гэтым кірунку, як здраду ці як імкненьне ахвяраваць інтарэсамі кітайскага народу дзеля інтарэсаў СССР».

Аднак, найбольш сэнсацыйнае абвінавачаньне палягае ў цьверджаньні, што, пачынаючы ад 1949-га году, Мао займаецца толькі прапаведваньнем прэвэнтыўнай вайны. У дакуманце ёсьць гіранічная спасылка на сакрэтную прамову Мао Цзэ-дуна яшчэ ў ліпені 1949-га году, у якой ён «карыстаўся цудоўнымі, але застарэлымі і неактуальнымі кітайскімі легендамі й прымаўкамі дзеля таго, каб даказаць неабходнасьць прэвэнтыўнай вайны».

Інакш кажучы, кіраўніцтва КПСС цьвердзіць, што вайна ў Карэі ў 1950-тым годзе была пачатая не зь ініцыятывы Сталіна, а зь ініцыятывы Мао Цзэ-дуна.

«Корань зла, — гаворыцца далей у дакуманце, — палягае ў аднабаковым ваенным характары кампартыі Кітаю. У выніку спэцыфічных умоваў, кітайская партыя «вырасла як армія, а не як цывільная арганізацыя, як усе іншыя кампартыі». У дакуманце далей гаворыцца: «Можна зразумець, што ў 1949-50 гадох кіраўнікі кампартыі Кітаю павінны былі лічыцца з настроямі сваіх таварышоў-жаўнераў — з настроямі, абумоўленымі практыкай тых страшных гадоў» (гэта значыць — збройным змаганьнем супраць Японіі і Гаміндану). Але зьдзіўляе тое, што 12 год пазьней, пазыцыі кітайскіх кіраўнікоў засталіся тымі самымі, у той час, як міжнароднае разьвіцьцё ў корані зьмянілася».

Інакш кажучы, — тлумачыць Дойчэр ў сваім артыкуле ў газэце «Сандэй Таймс», — Хрушчоў цьвердзіць, што Мао Цзэ-дун усё яшчэ зьяўляецца прыхільнікам прэвэнтыўнай вайны. Ці гэтае цьверджаньне — гэта пэсымістычны настрой, ці грунтуецца яно на фактах — сказаць нельга, — дадае Дойчэр.

У маскоўскім дакуманце гаворыцца таксама, што Мао і «маоістыя» церпяць ад «галавакружэньня ад посьпехаў», якое пачынаецца ў іх, калі яны думаюць аб «тэрыторыі, займанай Кітайскай Народнай Рэспублікай, аб ейных вялізарных людзкіх рэзэрвах і аб ейным значным уплыве на народы Блізкага Ўсходу і Афрыкі». Але ў маскоўскім дакуманце ёсьць папярэджаньне, што вялічыня краіны і ейнае шматмільённае насельніцтва не зьяўляюцца гарантыяй «ідэялягічнай накіраванасьці».

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

*Зь гісторыі Беларусі*

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Постаць вялікага князя Казіміра адыйграла даволі адмоўную ролю ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Калі вялікі князь Ягайла падарваў незалежнасьць, апрычонны шлях разьвіцьця ды й абаронную здольнасьць ВКЛ, заключыўшы так званую Крэўскую вунію з Польшчай, дык Казімір сваёй занятасьцяй польскімі справамі, а часамі й сьведамай прапольскай палітыкай у ВКЛ запачаткаваў наагул палітычны ўпадак Вялікага Княства Літоўскага й перавагу ягонага ўсходняга суседа — Маскоўшчыны.

Казімір быў меншым сынам караля Ягайлы й князёўны Сонькі Гальшанскай. Пасьля забойства вялікага князя літоўскага Жыгімонта, сына Кейстута, 29 чэрвеня 1440 году, бальшынёй прыхільнікаў, згуртаваных вакол слонімскага намесьніка Яна Гаштольда й князя Юрага Гальшанскага, ён быў выбраны на вялікакняжы пасад насуперак папярэднім умовам і запаветам Ягайлы, а таксама пратэстам Польшчы. Тут трэба заўважыць, што пры гэтых выбарах у Літве акрэсьлілася ажно чатыры партыі. Першая зь іх, што зрабіла замах на вялікага князя Жыгімонта й была згуртаваная каля князёў Івана й Аляксандра Чартарыйскіх (праўнукі Альгерда), а таксама каля віленскага й троцкага ваяводаў Даўгірда й Лелюша, мела на ўвазе вярнуць князя Сьвідрыгайла Альгердавіча, які быў пазбаўлены вялікакняжага пасаду ў 1332 годзе дзякуючы польскай агентуры й збройнаму ўмяшаньню ў справы ВКЛ. Да гэтай партыі праўдападобна належаў таксама й капыльскі князь Аленька Уладзімеравіч (унук Альгерда), што разам з жонкай і сынамі Сяменам і Міхаілам быў перад гэтым увязьнены вялікім князем Жыгімонтам. Наагул-жа Сьвідрыгайлу, у часе ягонага княжаньня й пасьля ў змаганьні з Жыгімонтам, падтрымоўвалі амаль усе княжыя роды ВКЛ, а таксама землі Полацкая, Віцебская, Смаленская, Кіеўская, Падольская й Валынская за ягоную наважаную антыпольскую палітыку й скасаваньне дыскрымінацыйнага Гарадзельскага прывілею з 1413 году. Тут варта нагадаць, што ў вырашальнай бітве Сьвідрыгайлы з Жыгімонтам пад Вількомірам у 1435 годзе на баку першага змагалася больш за 50 князёў, зь якіх 13 пала на полі бітвы, 42 было захоплена ў палон, а іншыя разьбегліся, як гэта было ў выпадку самога Сьвідрыгайлы, які зачыніўся спачатку ў Полацку, потым у Віцебску, затым перайшоў на Ўкраіну, ці хоць-бы князя Івана Бабы Друцкага, што потым мусіў уцячы ў Маскоўшчыну. Праўда, цяпер была іншая сытуацыя. Сьвідрыгайла знаходзіўся на чужыне ды ад 1436 году пачаў шукаць зьбліжэньня з польскім каралём і Палякамі,[4] а перад самымі выбарамі Казіміра 6 чэрвеня ён склаў прысягу вернасьці польскаму каралю Ўладыславу III,[5] стаўшыся такім чынам васалам апошняга. Гэта прымусіла ягоных прыхільнікаў перагледзець свае пазыцыі, і неўзабаве група князя Івана Чартарыйскага поўнасьцяй далучылася да прыхільнікаў кандыдатуры Казіміра.

Другой партыяй была групоўка прыхільнікаў вялікага князя Жыгімонта, узначаленая ягоным сынам Міхаілам і панам Нарбутам, якая таксама насуперак умовам Жыгімонта з польскім каралём Уладыславам III пра пераход пасьля сьмерці першага вялікакняжага пасаду ў рукі другога,[6] дамагалася вялікакняжага пасаду для Міхаіла Жыгімонтавіча. Як ведама, у канцы 1430-х гадоў вялікі князь Жыгімонт і сам намагаўся разарваць гэтую дыскрымінацыйную ўмову, накінутую яму Палякамі пры прыходзе да ўлады. Дзеля гэтага ён навязаў сувязі з Татарамі й крыжакамі, а таксама заключыў саюз супраць Польшчы з цэзарам Альбрэхтам II.[7] У гэтай сувязі ён пісаў да Альбрэхта: «Ніколі мя ня былі нічыімі падданымі, і вялікае княства нашае, наколькі помніцца, ніколі ня было нікому падуладнае, і мы трымаем яго ня з рук Палякоў, а займаем ягоны пасад ад Бога правам насьледства па нашых папярэдніках. Пасьля сьмерці нашага брата вечнай памяці Вітаўта ён праўна перайшоў да нас, як да праўдзівага спадкаемцы, і мы на гэтым пасадзе з божаю дапамогаю нікога, апрача Бога не палохаемся».[8] Аднак у Літве не маглі забыцца пра ягоныя каншахты з Палякамі й пра тыя «Акты вуніі» (з 15 кастрычніка 1432 і 27 лютага 1434 гадоў), што рабілі з Вялікага Княства Літоўскага звычайную правінцыю Польшчы ды яшчэ пры жыцьці Жыгімонта перадавалі Польшчы Падольскую зямлю й некаторыя гарады заходняй Валыні, а пасьля сьмерці — ўсе іншыя землі ВКЛ з «правам назначаць або й не» асобнага вялікага літоўскага князя. Была яшчэ й другая паважная прычына, якая адштурхала Ліцьвіноў, асабліва князёў, ад кандыдатуры Міхаіла. Як падае хроніка Быхаўца, ня маючы вялікай апоры ў вышэйшых кругах ВКЛ, вялікі князь Жыгімонт акружыў сябе прадстаўнікамі ніжэйшай шляхты, перасьледваючы адначасна княжыя роды й паноў: «невінне іх карал і мордерства над імі чыніл, якіе вымысліті могл, над всімі княжеты і панеты і рожаем шляхетскім всіх земль, Літовскіх, Рускіх і Жомоітскіх».[9]

Трэйцяй партыяй была група віленскага біскупа Мацьвея, што трымалася ягайлаўскае вуніі з Польшчай у ейнай форме часоў вялікага князя Жыгімонта, г. зн. прытрымоўвалася тае літары, што пасьля сьмерці Жыгімонта вялікакняжы пасад разам з ВКЛ абавязкава павінны перайсьці да польскага караля й Польскае кароны. Чацьвертай партыяй была, як ужо зазначалася, група князя Юрага Гальшанскага й пана Яна Гаштольда.

Выбар Казіміра вялікім князём літоўскім вельмі ўстрывожыў Польшчу, і яна пачала рабіць пратэсты, ня прызнаючы гэтыя выбары. Ліцьвіны таксама не пайшлі на тыя ці іншыя кампрамісы, і такім чынам літоўска-польская вунія перастала існаваць. Адразу пасьля выбараў, Казіміру, праўдзівей вялікакняжай Радзе начале з Янам Гаштольдам, давялося палагоджваць найперш нутраную еднасьць ВКЛ. У Смаленску ўспалыхнула паўстаньне «чорных людзей» супраць Казіміра. Яны прагналі намесьніка (ваяводу) Андрэя Саковіча й смаленскіх баяраў, якія спрыялі палітычнай еднасьці, запрасіўшы да сябе найперш дарагабускага князя Андрэя, потым Юрага Лінгвенавіча, мсьціслаўскага князя й камандзера смаленскіх палкоў у часе Грунвальдзкай бітвы. Да Юрага Лінгвенавіча, як паведамляюць некаторыя летапісы, далучыліся таксама Полацкая й Віцебская землі. Збунтавалася таксама й Жмудзь, падтрымоўваючы князя Міхаіла Жыгімонтавіча. На захадзе Драгічынскую зямлю захапіў мазавецкі князь Балеслаў пры падтрымцы польскага караля, на падставе ўмовы зь вялікім князем Жыгімонтам, з дочкай якога ён быў жанаты. Валынская зямля знаходзілася ў руках князя Сьвідрыгайлы — васала польскага караля. Заходняе Падольле было ў польскіх руках. У 1441 годзе быў зломаны гэты «сэпаратызм» Смаленшчыны й ваявода Андрэй Саковіч з смаленскімі баярамі вярнуўся ў Смаленск. Дайшло таксама да паразуменьня з Жмудзяй. У 1442 годзе Казімір зь літоўскім войскам пачаў аблогу Драгічына. Адбылося пагадненьне з Балеславам, паводля якога ён зьвярнуў Драгічынскую ВКЛ за некаторы выкуп. Ішла падрыхтоўка да вайны

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# Сіла ці слабасьць Сав. Саюзу?

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

новай савецкай гаспадаркі засталася й надалей сталінская таталітарна-бюракратычная сыстэма, толькі-што бяз сталінскага тэрору. І менавіта ліквідацыя галоўнай апоры гэтай сыстэмы — тэрору спрычынілася да таго, што сыстэма пачала кульгаць яшчэ больш.

Агульна ведама, што галоўны рухавік эканомікі — аднолькава і ў гэтак званай сацыялістычнай і камуністычнай сыстэме — гэта матарыяльнае зацікаўленьне чалавека. Гэтую праўду зразумеў, напрыклад, Ціта і грунтоўна перабудаваў арганізацыю дзяржаўнай гаспадаркі. Пра матарыяльнае зацікаўленьне шмат гаварыў таксама Хрушчоў. Аднак усё гэта было пераліваньнем з пустога ў парожнае. Насельніцтва, як раней, так і цяпер, з прадукцыі карысьці ніякай ня мае і таму не зацікаўленае, каб гэтая прадукцыя была як найлепш зарганізаваная. Найбольш яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца савецкая сельская гаспадарка. Незацікаўленьне сялянства калгаснай вытворчасьцяй прывяло да таго, што калгасная сельская гаспадарка апынулася ў стане поўнай руіны. Тое самае заўважаецца і ў прамысловасьці. Яна прадукуе мала й дрэннай якасьці. Імкненьне партыі трымаць усё пад сваім таталітарным кантролем прывяло да нячуванага росту бюракратыі і да вытворчай анархіі. Ненармальнае разьвіцьцё эканомікі заўсёды суправаджаецца росквітам крадзежу, чорнага рынку. Можна без перабольшаньня сказаць, што сяньня ў Савецкім Саюзе крадуць, або, паводля афіцыйнага савецкага жаргону, растрачываюць дзяржаўную маемасьць амаль усе. Такім чынам насельніцтва намагаецца забраць сабе сваю долю прадукцыі, што сталася манапольнай уласнасьцяй партыі. І можна сказаць, што гэта, фактычна, і зьяўляецца адзінай праявай матарыяльнай зацікаўленасьці насельніцтва савецкай эканомікай...

Ня трэба, хіба, і даказваць, што пэрманэнтны крызіс савецкай эканомікі — гэта яскравы прыклад слабасьці імпэрыі. На справе гэты крызіс зводзіць да нуля савецкія дасягненьні ў галіне атамнай і ракетнай зброі, бо меркай сілы зьяўляюцца не дасягненьні на тым ці іншым адрэзку, а агульны ўзровень дасягненьняў усяго эканамічнага жыцьця.

Другім важным элементам слабасьці Савецкага Саюзу зьяўляюцца, з аднаго боку, войстрыя нацыянальныя супярэчнасьці, а, з другога, глыбокі разрыў паміж масамі і пануючай партыяй. Ня гледзячы на ўсе пераконваньні партыі пра росквіт нацыянальных культураў, Масква робіць вялізарны націск на нацыянальную уніфікацыю, на стварэньне гэтак званага савецкага народу, што ў практыцы азначае прымусовую русыфікацыю, і выклікае пэрманэнтны супраціў паняволеных нацыяў. Адначасна, незадаваленьне масаў, асабліва маладога пакаленьня, ня зьменшваецца, а ўсьцяж павялічваецца. Масы жадаюць зьменаў, лепшага жыцьця, лібэралізацыі рэжыму, а партыя баіцца праводзіць гэтыя зьмены, каб ня страціць канчаткова кантролю над народамі.

Улічваючы гэтыя абставіны й настроі ў самым СССР, а таксама выбуховае палажэньне ў краінах-сатэлітах, больш як сумліўна, каб Крэмль мог зарызыкаваць лякальную ці сусьветную вайну. Цяжка прыпушчаць, каб ён не разумеў, што ў выпадку збройнага канфлікту, ён першы можа стацца ахвярай нянавісьці паняволеных ім народаў.

Элемэнты слабасьці Савецкага Саюзу і цэлага камуністычнага блёку перавышаюць ягоную сілу. Нажаль, палітыкі Захаду не заўсёды робяць з гэтага належныя высновы. Аб гэтым варта прыгадаць цяпер, калі Масква зноў напружвае міжнародную атмасфэру з прычыны Бэрліну.

**М. С.**

# Новая фаза маскоўска-пэкінскага канфлікту

**(Заканчэньне зь 1-ай бач.)**

«Кіраўнікі камуністычнай партыі Кітаю, — гаворыцца ў дакуманце, — выседзелі плян падзелу сусьветнага камуністычнага руху на дзьве зоны — гэтак званую Заходнюю зону, за якую былі-бы адказны Савецкі Саюз, і гэтак званую Ўсходнюю зону, падпарадкаваную Кітайскай Народнай Рэспубліцы». ЦК КПСС адкідае гэты плян. У дакуманце гаворыцца, што плян зьмяшчае ў сабе элемэнты расізму, таму што, будучы даведзеным да свайго лягічнага ліміту, ён выклікаў-бы вадаразьдзел паміж белымі й каляровымі народамі. Такі падзел ня прывёў-бы да канца існуючых разыходжаньняў і спрэчак, але «супярэчыў-бы прынцыпам камунізму».

Далей у дакуманце расказваецца, як кітайцы намагаліся стварыць сваю «зону» і ператварыць кампартыі Вэтнаму, Карэі й Інданэзіі ў сваіх васалаў. Але ў дакуманце не гаворыцца, ці ім гэта ўдалося. Адначасна, маскоўскі дакумант зласьліва адзначае «правал надзеяў Мао Цзэ-дуна знайсьці падтрымку ў шэрагах эўрапэйскіх кампартыяў, і гіранічна прыгадвае аб адзіным саюзьніку Кітаю — маленькай і адсталай Альбаніі. Энвэр Годжа, дыктатар Альбаніі, абвінавачваецца ў тым, што ён ліквідуе прыхільнікаў КПСС у сваёй краіне, пасылае шпіёнаў у Югаславію і «правакуе небясьпечныя пагранічныя інцыдэнты паміж Югаславіяй і Альбаніяй». Хрушчоў абвінавачвае Мао ў тым, што ён дае падтрымку албанскаму дыктатару, і папярэджвае яго, што гэтая палітыка можа выклікаць у Альбаніі выбух, накшталт паўстаньня ў 1956 годзе.

ЦК КПСС абвінавачвае Мао таксама ў тым, што ён стварае пракітайскія фракцыі ў заходніх кампартыях і выкарыстоўвае свае дыпляматычныя кадры для гэтай «падрыўной працы».

Гэты доўгі сьпіс абвінавачаньня, — гаворыць Дойчэр, — канчаецца пагрозай, што калі кітайскія камуністыя ня зьменяць свайго захоўваньня, дык Хрушчоў вынесе ўвесь канфлікт на паверхню й абвінаваціць Кітай перад абліччам міжнароднага камуністычнага руху. У дакуманце літаральна гаворыцца: «Мы не пабаяліся адкрытага разрыву з югаслаўскімі рэвізіяністымі. Не пабаімося мы і адкрытага разрыву зь кітайскімі дагматыстымі».

На заканчэньне ангельскі журналісты Дойчэр, апублікаваўшы зьмест сакрэтнага маскоўскага дакуманту ў ангельскай газэце «Сандэй Таймс», піша: «Шмат будзе залежаць ад таго, як на працягу наступных месяцаў будуць рэагаваць кітайскія камуністыя на гэтыя абвінавачаньні. Праўдападобна Хрушчоў вынесе свой канфлікт з Мао на разгляд міжнароднай канфэрэнцыі кіраўнікоў кампартыяў, якая будзе скліканая ў Маскве ў кастрычніку або ў лістападзе. Хрушчоў ўжо запрапанаваў Мао Цзэ-дуну зьявіцца асабіста на такую канфэрэнцыю, а не пасьлаць, як раней, сваіх падпарадкаваных. Ці прыйме Мао гэтую прапанову? Калі так, дык паміж ім і Хрушчовам адбудзецца драматычная размова — размова, якая будзе мець найбольш беспасярэдняе дачыненьне і да бэрлінскага крызісу.

**Праф. А. Барычэўскі**

# “Матчын Дар“ Алеся Гаруна

**(Працяг)**

Знадворныя факты біяграфіі пераплятаюцца з нутранымі фактамі, якія паказваюць, як пасьля першага адчаю паэта пачаў усьведамляць канечнасьць узяць сябе ў рукі й супакоіцца. Гэты настрой пачынаецца зь вершу «Думы ў чужыне», дзе паэта прыходзіць да думкі, што ягонае няшчасьце не становіць нечага нязвычайнага. У вершы «На сьмерць» айца паэта выяўляе думку аб бязьлітаснасьці Бога — думку, што адгукнецца пасьля ў вершы «Паэту». Паэта шукае жыцьцёвай мудрасьці; вышэйшымі мамэнтамі гэтага шуканьня — «Ноктурно» й «Ідуць гады». Сьветлыя думкі гэтых вершаў зьмяняюцца трыма пэсымістычнымі разважаньнямі над чалавечым жыцьцём наагул: «Адбітак», «Як ліст вярбінкі маладой» і «Нязнаны госьць». За імі йдуць вершы, якія выяўляюць асабовую горыч пісьменьніка («Матчын Дар» і наступныя). У вершы «Паэту» ўзьнікае надзея, што праз гора мы прыйдзем да сьветлага дня. У наступным вершы паэта пасылае праклёны сваёй «Слабасьці», у вершы «Жыцьцё» ставіць пытаньне, ці можа чалавек жыць пакорным жыцьцём вала, і закончвае разьдзел самым сацыяльным із сваіх вершаў «Муляру». Такім парадкам, увесь другі разьдзел сваёй пабудоваю становіць якбы элегію, якая пачалася нотамі адчаю ды йшла завілымі, як само жыцьцё, шляхамі да сьветлай веры, веры, якую — мы маем на ўвазе верш «Паэту» й «Муляру» — наш пясьняр хоча перадаць і іншым людзям.

Элегійнасьць траціць крыха-па-крысе свае чорныя хварбы, войстрае пачуцьцё адчаю зьмяняецца ціхім разважаньнем. Гэтая элегійнасьць, зьвязаная ў першай палавіне кнігі з асабовай доляю паэты, атрымвае крыха-па-крысе больш шырокі характар, зьвязваецца з думкамі аб жыцьці чалавечым наагул. Усё гэта рыхтуе пераход ад тэмаў асабовае лірыкі да тэмаў народнае лірыкі й чыста эпічных твораў у трэйцім разьдзеле кнігі «Прыявы роднага». Што да эпічных твораў, дык яны займаюць у кнізе больш самастойнае месца, чымся творы лірычныя: з гледзішча пабудовы кнігі іхныя тэмы больш-менш выпадкавыя, але невыпадкавы, першае, самы пераход аўтара ад лірычных тэмаў да эпічных, а другое — іхныя элегійныя элемэнты й народны характар.

У вершы, дзе аўтар уважае за канечнае не выдзяляць свайго няшчасьця, ён казаў:

> Што-ж тады плакаці мне, маладзейшаму?
> Я-ж не прайшоўшы пуціну сваю:
> Сэрца засталася. Не, весялейшаму
> Трэба мне быць, а я плачу-пяю.

Ён ня толькі перамог у далейшых вершах захапленьне сваім собскім горам, але даў і малюнкі чужога гора, асабліва яскравыя ў вершах «Хатка», «Жабрачка» й «Сын». Элегійнасьць паэты засталася, але яна сталася больш спакойнай і альтруістычнай.

Сваё гора аўтар выяўляе чыста лірычна, нічога ня кажучы аб тых сацыяльна-палітычных абставінах, якія закінулі яго ў Сібір. Чужое гора ён адлюстроўвае ў ліра-эпічных формах, высьвятляючы тыя факты й абставіны, якія да гэтага гора прывялі: галоўная крыніца чалавечага няшчасьця — гэта беднасьць, залежнасьць бедных ад багатых, бязьлітаснасьць таго грамадзкага ладу, які вёў беднага чалавека да жабрацтва й поўнае пакінутасьці.

Уражаньню цэльнасьці кнігі дапамагае тэматычная зьвязанасьць паасобных поруч пастаўленых вершаў. Так, прыкладам, верш «Добрыя дзеці», у якім дзеці выканалі раду ня мучыць сініцу ў клетцы й выпусьціць яе на волю, і наступны па ім верш «Салавейка», у якім кажацца пра салаўя, што пасаджаны ў клетку й перастаў сьпяваць, — зьвязаныя агульнай тэмай; гэтыя два вершы-блізьняты[4] атрымваюць у кнізе яшчэ новае алегарычнае значаньне дзеля таго, што яны гавораць нам і аб долі паэты, які таксама быў пазбаўлены волі, быў адарваны ад бацькаўшчыны й траціў у цяжкіх абставінах гэтае адарванасьці дарагі для яго дар песьні. Зьвязаныя таксама й вершы «Восень» і «Мае думкі»: у першым да паэты прыходзяць пад уплывам восені жудасныя думкі; у сэрцы загараецца жаданьне ўсьлед за гусямі паляцець у іншы край; у наступным вершы думкі паэты лятуць зь ветрам удаль, у іншы край, у родную Беларусь. Таксама зьвязаны «Начлег», у якім малюецца, як душа акунаецца ў блізкую да сну апатыю, і наступны верш «Скажы, братухна, калі параньне?», у якім паэта хоча прачнуцца й пытаецца, калі блісьне прамень сонца й чаму паэта яго ўсё ня бачыць. У вершы «Дзяўчыначка-сэрца, сябе ня трывож» ёсьць успамінак аб каханай паэты, што дае тэму для наступнага вершу «Мая люба». У разьдзеле «Прыявы роднага» чатыры вершы на кахальныя тэмы зьмешчаныя адзін па адным, пры чым і тут назіраецца той пераход ад асабовай лірыкі да паэтычнага перапрацаваньня народных матываў, які характарызуе разьмяшчэньне вершаў у кнізе ў цэлым.

## II

Матывы кнігі лірыкі, дармо, што ў сваёй мастацкай аформленасьці й эмацыянальных адценьнях яны не паўтараюцца, могуць быць шляхом абагульненьня зьведзеныя да колькіх асноўных; зь іхных узаемадачыненьняў складаецца душэўны сьвет паэты. Як мы бачылі, гэтыя матывы адзначыў сам аўтар у сваім уступным вершы. Не адзначыў ён, як паасобны матыў, толькі свае разважаньні аб жыцьці. Наяўнасьць іх і так зразумелая: бязь іх не магла-б узьнікнуць кніжка «думак і песьняў» (падзагалоўе «Матчынага Дару»). Вялікае значаньне гэтых матываў у кнізе ўжо было намі адзначана; з гэтых думак і песьняў паўстае вобраз паэты як чалавека, які меў на жыцьцё пэўныя пагляды, прасякнутыя моцнымі эмоцыямі й імкненьнямі. Да больш дакладнага высьвятленьня іх мы цяпер і пяройдзем.

Дачыненьні нашага паэты да сьвету, уласцівыя яму з прыроды, вызначаюцца яснасьцяй і прасьцінёй. Яны выяўленыя ў першых-жа радкох уступнога вершу, якія напісаныя на частую лірычную тэму: я адзначыў яе ў сваіх неапублікаваных матар'ялах да клясыфікацыі лірычных матываў, як «што я люблю». Сюды належаць, галоўна, вершы,

# Усевалад Ігнатоўскі

## (У трыццатую гадавіну трагічнай сьмерці)

Прафэсар Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся ў 1881 годзе на Горадзеншчыне ў сям'і настаўніка. Дзеля атрыманьня вышэйшай асьветы Ігнатоўскі запісаўся ў Пецярбурскі дзяржаўны ўнівэрсытэт на гістарычна-філялягічны факультэт. Аднак закончыць унівэрсытэту ў Пецярбурзе яму ня ўдалося. За ўдзел у рэвалюцыйным руху Ігнатоўскі ў 1905 годзе быў высланы з сталіцы. Толькі ў канцы 1906 году яму было дазволена вярнуцца ў Пецярбург і наведваць лекцыі.

Аднак праз кароткі час Ігнатоўскі быў звольнены з унівэрсытэту і высланы ў адміністрацыйным парадку зь Пецярбургу на поўнач у Алонецкую губэрню. Пасьля адбыцьця ссылкі яму было забаронена жыць у пяцёх буйных гарадох Расеі. Толькі настойлівасьць і прагнасьць да здабыцьця вышэйшых ведаў былі вынікам таго, што ён зь вялікімі цяжкасьцямі быў прыняты ў Дорпацкі ўнівэрсытэт, цяперашні Тартаўскі ў Эстоніі, які пасьпяхова і закончыў у 1911 годзе. Так бурліва прайшлі студэнцкія гады будучага беларускага нацыянальнага дзеяча.

Па заканчэньні ўнівэрсытэту Ігнатоўскага пацягнула на бацькаўшчыну і ён застаўся ў Вільні настаўнікам сярэдніх школ. Калі-ж у Менску быў адчынены настаўніцкі інстытут, ён быў у 1914 годзе прызначаны туды выкладчыкам гісторыі. Апрача выкладаньня ў інстытуце, Ігнатоўскі аддаваў шмат часу навукова-дасьледчай працы ў галіне гісторыі Беларусі, якую ён пачаў яшчэ ў часы ссылкі.

У 1917 годзе, пасьля лютаўскай рэвалюцыі, Ігнатоўскі стаўся актыўным сябрам партыі беларускіх эсэраў. Праграма гэтай партыі больш усяго адпавядала ягоным палітычным перакананьням, якія склаліся яшчэ ў часы ягонай рэвалюцыйнай дзейнасьці ў 1905 годзе.

Пры савецкай уладзе Ігнатоўскі быў прыняты ў камуністычную партыю і займаў высокія становішчы. Кароткі час ён быў народным камісарам земляробства. Затым ён абняў становішча народнага камісара асьветы. Стаўшы на чале гэтага камісарыяту, першымі крокамі дзейнасьці Ігнатоўскага было ня толькі выяўленьне, але і прыцягненьне да актыўнай працы раськіданай вайною сьведамай беларускай інтэлігенцыі. Пры Ігнатоўскім камісарыят асьветы фактычна стаўся штабам ня толькі абмеркаваньня, але і неадкладнага ажыцьцяўленьня насьпелых мерапрыемстваў у галіне культурнага адраджэньня беларускага народу.

Толькі дзякуючы адданасьці беларускай справе, арганізацыйным здольнасьцям, энэргіі й рашучасьці, Ігнатоўскаму й ягоным аднадумцам у самы кароткі час удалося адчыніць Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт і ўкамплектаваць факультэты пераважна беларускімі навукоўцамі. Гэта было ў 1921 годзе, калі і сам Ігнатоўскі быў абраны прафэсарам унівэрсытэту.

Другою важнаю падзеяй было ўзнаўленьне дзейнасьці Беларускай сельскагаспадарскай акадэміі ў Горы-Горках на Магілёўшчыне, якая была зачынена ў 1863 годзе пасьля паўстаньня Каліноўскага. Там была пакінута толькі сярэдняя агранамічная школа. Нарэшце вэтэрынарная сярэдняя школа зь Менску была перанесеная ў Віцебск і рэарганізаваная ў Вэтэрынарны Інстытут.

У Менску быў адчынены і пэдагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага. Клопатамі ягонага шэфа тэхнікум быў укамплектаваны найлепшымі выкладчыкамі й настаўнікамі. Менскі тэхнікум стаў запраўднай кузьняй ня толькі для падрыхтоўкі сьведамых беларускіх настаўнікаў, але зь ягоных сьценаў выйшла ня мала пісьменьнікаў і паэтаў.

Пад кіраўніцтвам Ігнатоўскага згуртаванымі высілкамі ў Менску быў створаны Інстытут Беларускай Культуры, які ўжо ў 1928 годзе ўрачыста быў пераствораны ў Беларускую Акадэмію Навук. Першым прэзыдэнтам Акадэміі Навук быў абраны Ўсевалад Ігнатоўскі.

Усебаковая дзейнасьць Ігнатоўскага ў Камісарыяце народнай асьветы БССР дала станоўчыя вынікі ў стварэньні самабытнага беларускага тэатру ў Менску. Выключна плённай была дзейнасьць і Вандроўнага тэатру пад кіраўніцтвам запраўды народнага артыстага У. Галубка, які карыстаўся падтрыманьнем наркома асьветы Ігнатоўскага і ня раз аб'ехаў самыя глухія мястэчкі і сёлы Беларусі з сваімі артыстымі. Яго пастаноўкі былі насычаныя беларускімі народнымі песьнямі, музыкай і скокамі.

Культурная дзейнасьць Ігнатоўскага ў Дзяржаўным унівэрсытэце, а таксама ў Інстытуце Беларускай Культуры і сувязь яго з навучальнымі ўстановамі мела станоўчы ўплыў на студэнтаў і вучняў сярэдніх школаў. Моладзі прышчэпліваліся ідэі адданай працы ў галіне культурнага адраджэньня беларускага народу. Колькасьць паэтаў, пісьменьнікаў, дасьледнікаў, навукоўцаў з розных галінаў народнай гаспадаркі ў тыя часы непамерна вырасла. Гэтаму спрыяў і кірунак працы Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, кіраўніцтва якога зь вялікай зацікаўленасьцяй заўсёды зьмяшчала ў друку працы беларускай моладзі.

Шырокая дзейнасьць Ігнатоўскага ў Наркамасьвеце, унівэрсытэце й іншых інстытуцыях ня была перашкодай дзеля вядзеньня навуковай працы ў галіне літаратуры й гісторыі Беларусі. У сваёй працы «Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэньня Беларусі» (1921) ён даў схему галоўных пэрыядаў беларускай літаратуры і іхнюю характарыстыку. У другой навуковай працы «Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX стагодзьдзя (1925) Ігнатоўскі даў характарыстыку беларускай літаратуры на галоўных этапах разьвіцьця.

Між тым, у 1930 годзе арганізавана выступілі варожыя элемэнты, каб скампрамітаваць дзейнасьць прафэсара У. Ігнатоўскага. Яму публічна былі зробленыя закіды, што ён у сваёй дзейнасьці й навуковых працах ставіць на першае месца і моцна падкрэсьлівае нацыянальныя матывы замест клясавых. Ігнатоўскага абвінавачвалі ў тым, што ён у сваіх лекцыях залічае беларускіх пісьменьнікаў Дуніна-Марцінкевіча й Багушэвіча ў народнікі, якія паводля камуністычнай трактоўкі зьяўляліся прыгоньнікамі й клерыкаламі, і што ён таксама ідэялізуе «нашаніўцаў», а ня выкрывае іхнюю «клясавую сутнасьць» і г. д.

І вось у лютым 1931 году прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук быў выкліканы ў ГПУ на допыт. Пасьля хадзілі чуткі, што на допыце ў яго патрабавалі, каб ён назваў беларускіх сяброў і аднадумцаў, якія нібы разам зь ім зарганізавалі «Саюз Вызваленьня Беларусі». Пасьля гэтага допыту, у сябе на кватэры прафэсар У. Ігнатоўскі застрэліўся. Заплянаваная ГПУ судовая расправа над беларускімі нацыянальнымі дзеячамі не адбылася. Усевалад Ігнатоўскі выбраў сьмерць, якая і разбурыла пякельныя пляны ГПУ.

**К. Ц.**

# Беларускае народнае мастацтва

**(Канспэкт Рэфэрату на Чыкагскіх Студыях Культурна-Рэлігійнага Тыдня)**

Беларускае мастацтва — душа народу. Яно прайшло даўгі, цяжкі, поўны выпрабаваньняў гістарычны шлях, яскрава адлюстравала думкі і пачуцьці народу, ягоную ўпартую барацьбу за сваю незалежнасьць і волю, ягоныя нацыянальныя сваеасаблівасьці, калярытны быт людзей, іхныя абрады й звычаі, а таксама і навакольную прыроду, зь якой беларус звык знаходзіцца ў самых цесных сувязях і лучнасьцях.

Беларускае народнае мастацтва вельмі старое, сваім паходжаньнем яно узыходзіць да сівой мінуўшчыны, да першабытнага абшчыннага ладу старадаўных продкаў-славян. Аб гэтым сьветчаць: назовы самых народных беларускіх абрадаў, звычаяў (калядныя, русальныя, купальскія), звароты-клічы да абагаўлённых сілаў прыроды (Дажбога, Пяруна, Купалы, Лелі і г. д.), а найбольш пераканальна — самая пабудова мастацкіх народных жанраў: — надзвычай ляканічных, простых, поўных жывога бытавога інтанаваньня, з войстра падкрэсьлянай магічна-заклікальнай іх функцыяй (народная гульня «Каза», завіваньне бярозкі, купальскія вогнішчы, гукальныя песенныя ходы і г. д.).

Ананімныя стваральнікі мастацкага беларускага фальклёру сьвята шанавалі старадаўныя спосабы, прыёмы й манеры мастацкага будаваньня і пранесьлі іх, амаль што някранутымі, ўва ўсёй чысьціні, праз вякі, аж да нашых дзён.

Калі да гэтага дадаць надзвычай глыбокі, прачулы эмацыянальны зьмест народнага беларускага мастацтва, ягоны мяккі, пяшчотны, ласкавы тонус, дык разам з ляканічнасьцяй, дакладнасьцяй і зручнасьцяй сродкаў мастацкай выразнасьці, самы галоўны і асноўны жанр беларускага народнага мастацтва — беларуская народная лірыка (паэтычная і музычная, слоўная і песенная) — здолела вырасьці ў шэдэўры сусьветнага народнага мастацтва наагул.

Многія вучоныя фальклёрыстыя, паэты, пісьменьнікі, кампазытары, паміж якіх мы знаходзім вялікія імёны (Міцкевіч, Некрасаў, Рэпін, Глінка, Балакіраў, Рымскі-Корсакаў, Грэчанінаў, Манюшка, Шыманоўскі і, навет, Бэтховэн і Шопэн), зьвяртаюцца да беларускага вуснага і песеннага фальклёру, як да чыстае й сьвежае крыніцы, чэрпаючы зь яе плыні і струменьні для свае творчасьці.

**Прыняцьце хрысьціянства,** а разам з гэтым і асваеньне хрысьціянскага сьветапагляду, успрыйманьне хрысьціянскіх ідэяў, ня толькі зрабілі вялізарнае й істотнае ўзьдзеяньне на беларускае народнае мастацтва, але, можна сказаць, у ягонай **аснове зусім пératварылі яго, асьвятлілі новым сьвятлом** ягоны зьмест, узбагацілі й упрыгожылі ягоныя формы і жанры, надалі народнай творчасьці выключнае прагрэсыўнае значэньне й плодную глебу для ягонага развою. Хрысьціянскія рэлігійныя сьвяты, урачыстасьці і абыходы падмянілі сабою былыя паганскія абрады й звычаі: — Каляда сталася сьвятам Божага Нараджэньня, Тройца і Духаў Дзень — зьмянілі Русаліі, Іванаў Дзень стаў на месца Купалы і г. д. У народнае мастацтва шырокім патокам рынулі батлейкі (спэктаклі народнага лялькавага тэатру на тэмы Нараджэньня Хрыста), песьні й прыпеўкі зорачнікаў («Сьвяты вечар»), валачобнікаў на Вялікдзень (прыпеўка: «Хрыстос Васкрос Сын Божы»), духоўныя вершы лернікаў (аб «Галубінай Кнізе», «Алехсахвіі Царэвічы» і іншыя). На аснове хрысьціянскай маралі пачалі будавацца народныя жанры разнастайных паданьняў, замоваў, павучаньняў, прымавак, прыказак («Як трывога — дык да Бога»). Ды і ранейшыя абрадава-працоўныя, сямейна-абрадавыя і бытавыя цыклі народнай творчасьці напоўніліся рэлігійна-маральным зьместам, ідэяй Божага Провіду, Божай апекі над людзкою істотаю. Да Бога і сьвятых зьвяртаюцца ўва ўсіх выпадках жыцьця, як да сваіх родных, кроўных, блізкіх, зацікаўленых народным жыцьцём і працаю. Паводля народных уяўленьняў: — у полі — «Сам Бог сена косіць, анёлы ў копы складаюць»; у хаце: — «Бог сядзіць на куце, ды дае долю сіраце».

Навет лірычныя жанры народнай творчасьці з іхнай галоўнай любоўнай тэматыкай не абыходзяцца без успамінаў аб Божай літасьці, якой закаханыя даручаюць свае пачуцьці, мары й надзеі. Народныя складальнікі і выканаўцы беларускага фальклёру пасапраўднасьці могуць уважацца песьнярамі Божымі ў поўным значэньні гэтых словаў. Яны напаўнялі сваю творчасьць хрысьціянскім сьвятлом і несьлі яго ў самую гушчу шырокіх народных масаў.

Здавалася б, што з такімі багатымі дадзенымі і якасьцямі, такім высока майстэрскім складаньнем, такім прыгожым тонусам насычанасьці, — беларускае народнае мастацтва павінна было

**(Заканчэньне на 4-ай байыне)**

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

з Польшчай за Падольскую й Валынскую землі. Праўда, у 1446 годзе дайшло да пагадненьня зь князем Сьвідрыгайлам, які цяпер парываў з Польшчай, прызнаваў зьверхніцтва вялікага князя Казіміра ды запісваў Валынь Вялікаму Княству Літоўскаму, якая павінна была далучыцца да апошняга пасьля сьмерці Сьвідрыгайлы. Зь Кіеўскай зямлі, што ў часе закалотаў між Сьвідрыгайлам і Жыгімонтам таксама хацела перадацца польскаму каралю, зноў было ўтворана асобнае княства й туды быў накіраваны князь Алелька Ўладзімеравіч. З боку Масквы ў гэты час ня было вялікае загрозы, аднак у 1445 годзе на ўсходняе пагранічча была выслана літоўская армія для ліквідацыі пагранічных спрэчак і магчыма з мэтай далучэньня Калугі. У 1449 годзе зь вялікім князем маскоўскім Васілём (Цёмным) была падпісаная новая ўмова, якая, пацьвярджаючы «вечную любаў» і «узаемную дапамогу», а таксама «няўмешваньне» ў нутраныя справы кожнага з гаспадарстваў, падкрэсьлівала адначасна: «А в вотчыну, брате, у твою, мне и моей братьи молодшей, у-во все твое великое княжение... не вступатися... Тако ж в Новгород Великій и во Псков, и во вси Новгородскіе места, тебе королю и великому князю не вступатися... А князь великій Борыс Александрович Тферскій и со своею братьею и з братаничы своими в твоей стороне, а со мною с великим князем с Васильем в любви и в докончаньни...»[10]

---

4) **Codex epistolaris saeculi decimi quinti** (Monumenta Medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia, t. II), t. I, Cracoviae 1876, nr. XCI, p. 84-85.

5) **Там-жа,** nr. CXIII, p. 122-123.

6) **Akta Unji Polski z Litwą, 1385-1791,** ed. St. Kutrzeba, Kraków, 1932, nr. 61, p. 100.

7) **Codex epistolaris saeculi decimi quinti** (MMAHRGPI, t. XIV), t. III, Cracoviae, 1894, nr. 44, 557-558.

8) **Там-жа,** (MMAHRGPI, t. VII), t. II, Cracoviae, 1884, nr. 261.

9) **Полное собрание русских летописей,** т. XVII, С.-Петербург, 1907, б. 532.

10) **Акты относящиеся к истории Западной России,** т. I, С.-Петербург, 1846, но. 50, б. 62-65.

**(Працяг у наступным нумары)**

**П. Залужны**

**Заўвага:** З пачатку артыкулу ўкралася супярэчная памылка. Было надрукавана: «Значыцца, ці маглі гэтыя князі выступаць супраць „засільля летувіскай феадальнай верхавіны" на Беларусі й гэтым самым **падрываць** „незалежніцкія імкненьні паняволенага беларускага народу"?« Трэба чытаць: «Значыцца, ці... й гэтым самым **падтрымоўваць...?»**

---

якія пачынаюцца з слова «люблю» й становяць пералічэньне дарагіх для паэты зьяваў. Тымчасам як іншыя паэты, адказваючы на гэтае пытаньне, часта выяўляюць у пералічэньні гэтых зьяваў арыгінальнасьць сваіх густаў і звычайна зьвязаную з гэтай арыгінальнасьцяй аднабаковасьць, Алесь Гарун пачынае верш словамі: «Люблю **і я** скляпеньне зор» і г. д., гэта значыць, ён любіць усё, што ўласьціва наагул любіць людзям. Прадметы ягонага каханьня належаць да трох сьветаў: сьвету прыроднага, сьвету людзкога й сьвету ўвабражальнага («скляпеньне зор», «зямлі прасьцяг» і г. д. — прыродны сьвет, «жыцьцё», а ў ім людзей, і кшталты іхных душ» — людзкі сьвет, «вянкі з надзей» — увабражальны сьвет).

Ясны сьветапагляд паэты дае адказ і на пытаньне аб **тым,** як і для чаго жыць. У чым мудрасьць жыцьця — аб гэтым гаворыць нам прырода ўсімі сваймі зьявамі:

Прысуджаны шлях свой рабі дарагім,
Красуйся на радасьць сабе і другім.

Ці не для таго, каб выканаць гэты запавет прыроды, атрымаў паэта пры самым сваім нараджэньні «матчын дар», г. зн. жыцьцё, душу й пасяродак яе выяўленьня — іскрыпку? Да паэты павінны былі прыйсьці «песьні-весялушкі», ён павінен быў граць, «як пяе зямліца, як шчабечуць птушкі». Алесь Гарун хацеў-бы быць аднэй з гэтых радасных праявінаў мудрага жыцьця прыроды. У гэтым сэньсе ён набліжаецца да народнае творчасьці, у якой асабовае распушчаецца ў вагульным і тыповым. Ёсьць, праўда, у ягонай кнізе адзін верш, у якім паэта прызнаецца, што й яму была ведамая спакуса індывідуалізму. Гэты верш — «Літаньне Адзіноце» — прызнаньне, якое толькі намінае на той бок душы паэты, што не знайшоў сабе яскравага выразу ў ягонай творчасьці. Неіндывідуалістычны ідэял ягонае паэзіі адлюстраваўся ня толькі на пабудове кнігі, але й на характары ягоных зьвязаных з народнай творчасьцяй вобразаў. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў малюнках каханай жанчыны: тут няма нічога індывідуальнага; ягоная люба як-бы выйшла да яго із сьвету народнае казкі:

Ідзець каралеўнаю, добрай, ласкаваю, роўнай паходкаю
Ціха ступаючы.

Межы паміж асабовай кахальнай лірыкай і мастацкім апрацаваньнем народных матываў у Алеся Гаруна сьціраюцца.

Навет і ў тых вершах, дзе паэта выяўляе свой асабовы душэўны сьвет, свой індывідуальны лёс, ён часта карыстаецца, як мы пабачым, вобразамі з дарагой для яго скарбніцы народнае творчасьці.

Цяжкое жыцьцё паэты замуціла ясны прыродны сьветапагляд яго. Доля паслала яму цяжкое гора, адарваўшы яго ад роднай зямлі й роднага народу, кінуўшы на чужыну, асудзіўшы на цяжкую й даўгую працу, якая адбірала ў яго сілы й час, і разам з тым ягоны «матчын дар», паэтычную душу й дар песьні.

Не засталося ў яго й веры ў неба. Аб гэтым сьветчыць ягоны верш «На сьмерць»:

Ці-ж можна праўду нам знайсьці, калі маніцца,
У неба чорнае ўляпіўшыся вачмі?

Тое, што тут сказана пад уражаньнем сьмерці айца, паўторана ў вершы «Паэту»:

Пакінь, пакінь сьпяваць аб праўдзе тэй, што ў небе!
Яна — чужая нам, таёмных праўда сіл.

Але паэта ня здаўся, ён вёў змаганьне, у якім ці раз цярпеў апаразу й здабываў перамогу: аб гэтым ён казаў нам у разьдзеле «На чужыне». У вершы «Ноктурно» ён апавядае аб тым, як сустрэў аднойчы ў лесе сваю Нядолю; ён пытаецца ў яе, чаму так сумна праходзяць ягоныя дні, дні таго, хто так любіць жыцьцё, і яна дае яму раду:

Жыві, каб жыцьце даць другім, малодшым,
Як дуб стары, што ўзгадаваў дубка.

Жыцьцё з прыродай, блізіня да яе былі для Алеся Гаруна ня толькі запаветам, але й тэй зьявай ягонага душэўнага жыцьця, якой ён даў мастацкае выяўленьне, найбольш удатнае ў вершы «Восень». Намаляваўшы, як зьмяняюцца ў дні глыбокае восені расьціны й дрэвы, як, прадчуваючы зіму, шукае сабе мярлог мядзьведзь, як зьбіраюцца адляцець гусі й качкі, паэта гаворыць аб тым, як пранікае восень і ў ягоную душу:

Сэрца баліць пад жаданьняў прымусамі,
Што за жаданьні — ніяк не пазнаць;
Можа ляцеці адгэтуль за гусямі...
Можа заснуць, каб нічога ня знаць?..

У наступным вершы ён выбірае першую магчымасьць: жаданьне ляцець у паэты, адарванага ад свае бацькаўшчыны, — ягонае нязьменнае жаданьне:

Сокалам вольным і з птушшай гульлівасьцяй
Як-бы, здаецца, адсюль паляцеў...

Ён ня любіць вакольных гораў, гэтых «вартаўнічых няволі»:

Белы сьвет, як чорна хмара
Заступілі горы.

Ня маючы магчымасьці паляцець сам, ён зварачаецца, як гэта часта бывае і ў народнай песьні, то да гусей, то да ветру для таго, каб устанавіць сувязь з бацькаўшчынай.

Лятуценьне пра крылы набывае больш шырокага характару, не зьвязанага ўжо ня толькі з тым, што паэта разлучаны з бацькаўшчынай, але й з тым, што яму недаступнае неба («Адбітак»):[5]

Дзіўлюся я на зьзяньне ясных зораў, —
І сумна-сумна так, што я ня разам зь імі,
Што жыць ня лёс мне ў вышыні нагорнай
І сьцежкамі хадзіць па небе залатымі.

У вершы «Думкі-дыяманты» ён хацеў-бы перад сьмерцяй, як лебедзь, запяяць сваю перадсьмяротную песьню й узьляцець над зямлёй:

Можа, пачуўшы прадсконны мой сьпеў
Сьціхла-б на сьвеце вайна...
З радасным духам-бы я паляцеў
У царства каханьня, відна.

**(Далей будзе)**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Паважаная Рэдакцыйная Калегія!**

Пэўна-ж кожны з нас цешыцца, што Вы маеце «сёе-тое» ў казырох. Але я — стары вэтэран і калісьці мусіў змагацца ў брыджавым турніры. Таму хачу зьвярнуць увагу на тое, што хоць казырная двойка б'е неказырнага туза, казыры трэба разважна абмяркоўваць і разыйгрываць, бо можна прайграць «два пік», маючы ў дзьвюх руках дзесяць, або дванаццаць казыроў. І гэта — тэарэтычна і практычна.

Я маю на думцы рубрыку «Сёе-тое» з 21-га нумару «Бацькаўшчыны». Гэтая рубрыка вельмі жывая, поўная тэмпэрамэнту, ў журналістыцы пажаданая Аднак навошта перагінаць палку?

У прыгаданым «Сёе-тое» М. Козыр зайграў у покэра. Покэр, пэўна-ж ня брыдж, лаянка — не аргумэнтацыя, а вульгарнасьць — ня гумар.

Вось-жа на ўступе прыгаданага «сёе-тое», аўтар густа абклаў казырамі Маякоўскага, называючы яго «дэгэнэратам». На маю думку, гэты эпітэт да Маякоўскага зусім не пасуе. Гэта была трагічная постаць, якіх столькі знойдзем у сусьветнай і — навошта далёка шукаць — у нашай літаратуры.

Далей сп. Козыр пакрыў густым «матам» Броўку і Танка. Добра ім так! Але ўсё-ж, пашто так груба? Гэта-ж самае можна было сказаць у куды далікатнейшай форме і больш зьнішчальна. Цяжка дадумацца, што аўтар меў на ўвеце: нізкі ўзровень чытачоў «Бацькаўшчыны», ці Броўкі і Танка? А іх таксама, здаецца, можна запісаць у лік чытачоў «Бацькаўшчыны».

Але за гэта ўсё можна было-б ня пекліцца. Ды вось у фэльетоне, зьмешчаным у гэтым самым нумары, спадар Козыр, бачна, атрымаў 13 козыраў з рукі і разыйшоўся. Не зважаючы на грубы тон наагул, там сустракаем такія шэдэўры, як «довольно хуліць», «хрэн прожывеш», «роднапартыйныя лычы», «такую вашу этакую» і г. д. Да камплету толькі не хапае «а хрэн табе, Мікітка, у лыч», або . . .

Я сам магу ўважацца спэцыялістым у імправізацыі г. зв. «дваццаціпавярховага мата» (яшчэ адзін жалюгодны набытак з валацугі па Расеі), аднак я ня прыхільнік зьмяшчаньня нават сынанімаў касматых слоўцаў і акрэсьленьняў у газэце, тымбольш, калі яны ня маюць мастацкіх рамаў.

Калісьці я змагаўся за поўную свабоду, а, навет, за фрывольнасьць у беларускай прэсе. Пэўна-ж, без вульгарнасьці. Тады мне тлумачылі, што «мы ня можам тут на гэта дазваляць, што мы мусім змагацца за чысьціню лініі, мусім цярпець за мільёны» і г. д.

Цяпер, як я бачу, свабода хлынула. Няўжо-ж недзе прарвалася запруда? З гэтага можна было-б толькі цешыцца, каб гэты прыплыў быў рэгуляваны.

Стары прынцып: калі нехта лаецца — значыцца не мае слушнасьці. А вось уся бяда ў тым, што таленавіты і плодны супрацоўнік М. Козыр мае слушнасьць, і лаецца зусім непатрэбна.

З глыбокай пашанай

пс

Італія.

**Postscriptum**

Пасьля напісаньня гэтага ліста я прачытаў вершаваны фэльетон М. Козыра «Партыйны Лыска». Віншую Рэдакцыі. Гэта шэдэўр вульгарнай лаянкі. Паважаныя Спадарове! Давайце ня будзем . . .

# Выстаўка савецкай дзіцячай кнігі ў Нью Ёрку

Цяпер у Нью-Ёрку адбываецца выстаўка савецкае дзіцячае кнігі, як частка афіцыйнае праграмы амэрыканска-савецкага культурнага абмену. Выстаўка разьмешчаная ў будынку найбольшае ньюёркаўскае публічнае бібліятэкі, што знаходзіцца ў цэнтры места ды мае даволі шмат наведвальнікаў. Гэтымі днямі наведаў выстаўку й я, каб паглядзець, як маецца ў шмат нацыянальнай савецкай сям'і беларуская дзіцячая літаратура ды як выглядае Беларусь, калі яе вязуць у Амэрыку з Масквы.

Паабапал даўгога прасторнага калідору бібліятэкі расстаўленыя стэнды, ілюстрацыі, плякаты. На выстаўцы больш за дзьве тысячы кнігаў. Але знайсьці тут што-небудзь беларускага бадай немагчыма, дзеля тае прчыны, што ёсьць тут усяго пяць беларускіх кніжак дый тыя знаходзяцца ў трох розных месцах. Здарылася, аднак, так, што прыйшоўшы на выстаўку мне неўзабаве давялося быць сьведкам размовы вакол беларускае кнігі паміж савецкай жанчынай, афіцыйным праваднікам выстаўкі, і амэрыканскім студэнтам беларускага паходжаньня, які займаецца пытаньнямі гісторыі Ўсходняе Эўропы. Студэнта цікавіла тое самае пытаньне што й мяне: прачытаўшы ў раздаванай на выстаўцы кніжыцы, што «дзіцячая літаратура ў Савецкім Саюзе шматнацыянальная й савецкія дзеці маюць кніжкі ў сваіх родных мовах», ён хацеў пабачыць, як далёка ў сваім разьвіцьці пайшла беларуская дзіцячая літаратура ды як гэтую літаратуру паказваюць заходняму сьвету.

Як выявілася, аднак, праваднік на гэтае пытаньне студэнта адказаць было ня лёгка, бо ейныя спробы знайсьці беларускую кніжку не далі ніякага вынiку. Тады, схапіўшы за рукаво свайго начальніка, што ўвішна прабягаў па калідоры, яна зьвярнулася да яго: «Пожалуйста, найдите мне срочно белорусскую книгу, она мне очень нужна». Неўзабаве з мора расейскіх кніжак былі вывуджаныя тры беларускія: Уладзімера Дубоўкі «Цудоўная знаходка», Міхася Калачынскага «Прыгоды Патапкі» і Васіля Віткі «Казка пра цара Зубра». І гэта ўсё, што вы мне можаце паказаць? — запытаўся амэрыканскі студэнт. Праваднiца сумелася. Толькі што яна запэўнявала яго, што беларуская літаратура мае ўсе магчымасьці свабоднага разьвіцьця ў Савецкім Саюзе. Намагаючыся ратаваць прыкрае палажэньне, яна пачала цьвердзіць, што тут дзесьці быў яшчэ таўсты зборнік беларускіх народных казак, але яго відавочна ўкралі. На пытаньне студэнта, чаму выстаўка не арганізаваная паводля прынцыпу нацыянальных літаратураў, паколькі савецкая фэдэрацыя дзяржаваў складаецца зь незалежных нацыянальных рэспублікаў, праваднiца паясьніла, што гэта выстаўка тых кніжак, якія надрукаваныя маскоўскім дзіцячым выдавецтвам. Але студэнт трымаў у руках тры кніжкі, выдадзеныя ў Менску, і ён далікатна зьвярнуў на гэта ўвагу праваднiцы. Ну так, адказала яна, ёсьць і менскія, каб паказаць, што ў нас друкуюцца кніжкі і ў іншых мовах, але мэта выстаўкі — паказаць выданьні ў расейскай мове. Чаму-ж тады не назвалі гэтае выстаўкі выстаўкай расейскае дзіцячае літаратуры? — ня сунімаўся дапытлівы студэнт. — Ёсьць-жа розьніца паміж словамі «расейскі» й «савецкі»? Праваднiца змушаная была згадзіцца ўрэшце, што тры беларускія кніжкі на дзьве тысячы расейскіх крышку замала.

Пазьней ужо я даведаўся, што групе ньюёрскіх Ўкраінцаў, якія дапытваліся ўкраінскіх дзіцячых кніжак і знайшлі іх адно некалькі штук, быў дадзены адказ, што ўкраінскія кніжкі забыліся ў Маскве, бо трэба было надта сьпяшацца ў дарогу.

Як-жа рэагуюць на выстаўку Амэрыканцы? — Парознаму. Па сярэдзіне калідора на стале ляжыць кніга, у якую наведвальнікі ўпісваюць свае ўражаньні й пажаданьні. Зробленая яна, між іншага, так, што карткі ў яе можна выймаць і ўстаўляць. У кнізе гэтай вельмі шмат прыхільных і пахвальных выказваньняў: вітаюцца прыгожыя ілюстрацыі, здольныя паэты, добрая ідэя бліжэйшага знаёмства, лёзунг «мір усяму міру» й падобнае. Ёсьць, аднак, цімала крытычных думак: зварачаецца ўвага на крыклівы палітычна-прапагандавы бок савецкае дзіцячае кнігі, на тое, што быт савецкіх дзяцей у запраўднасьці выглядае куды горш, чымся ў кнізе; што такую выстаўку, як гэтая, і Гітлер мог-бы наладзіць. Словам кажны наведвальнік рэагуе пасвойму. У запісной кнізе было таксама колькі выказваньняў у мовах народаў Савецкага Саюзу. У вадным месцы я заўважыў напісанае штосьці відаць, палатыску, бо заміж прозьвішча стаяла «Латвіятыс». Палатыску я не разумею, але, рашчараваўшыся ў магчымасьці знайсьці адпаведна прадстаўленую беларускую дзіцячую літаратуру, я здагадаўся, што мог напісаць няведамы Латыш.

На маё пытаньне, пастаўленае савецкай праваднiцы, чаму на выстаўцы не захаваная прапарцыянальнасьць у дачыненьні да кажнае нацыянальнае літаратуры Савецкага Саюзу, яна, паціснуўшы плячыма, выказала прыпушчэньне, што ў Маскве, відаць, ня зусім добра прадумалі прынцып арганізацыі выстаўкі. У мяне аднак склалася зусім адваротнае ўражаньне: што прынцып гэты якраз быў прадуманы, і прадуманы з мэтай паказаць Амэрыканцам, прызнаючы шматнацыянальнасьць Савецкага Саюзу, што маладое пакаленьне гэтае дзяржавы расьце галоўна на аснове расейскае мовы й расейскае культуры, каб гэтым падтрымаць апошнія выказваньні савецкіх ідэялягічных кіраўнікоў, што ў Савецкім Саюзе куецца новая расейскамоўная сацыялістычная нацыя, якая мае быць завяршэньнем крамлёўскае нацыянальнае палітыкі й разьвязаньнем балючае нацыянальнае праблемы падсавецкіх народаў.

Выстаўка савецкае дзіцячае кнігі ў Нью-Ёрку — гэта выразнае намаганьне савецкага рэжыму дэзынфармаваць Амэрыканцаў, што ў Савецкім Саюзе, быццам-бы, канчальна разьвязанае нацыянальнае пытаньне — тымчасам, як гэтае пытаньне трагічна завойстранае, бо кажнаму народу найдаражэйшая свая родная мова й культура, а свабодна разьвіваць іх няма магчымасьці.

**Я. Запруднік**

# Беларускае народнае мастацтва

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

знайсьці самую шырокую і плодную дарогу у сваім гістарычным шляху. Таго, аднак, не сталася. Лёс паняволенага народа вялікаю й моцнаю прапонаю лёг на гэтым шляху. Толькі з актам 25 Сакавіка, абвешчаньнем вольнай і незалежнай Беларусі зьявіліся надзеі на прастор развою беларускага народнага мастацтва. Бальшавіцкая акупацыя краю прынесла гэтым спадзяваньням цяжкі ўдар. Праўда, спачатку (у 20-х гадох), калі Беларусь здолела яшчэ жыць сваім нацыянальным жыцьцём, мала падпарадкаваным бальшавіцкаму кіраўніцтву, было вельмі шмат зроблена ўсімі культурнымі беларускімі арганізацыямі ў справе асваеньня, зьбіраньня, вывучэньня і пашырэньня й распаўсюджваньня народнай беларускай творчасьці, ды гэты час быў кароткі. Пачаўся (у 30-х гадох) гэтак званы сацыялістычны наступ на нацыянальныя рэспублікі і займацца справамі народнага мастацтв сталася небясьпечным, бо можна было трапіць у «ворагі народу» — «нацыянальна-буржуазных шкоднікаў».

Савецкая ўлада, хвальшыва прыкрываючыся прапагандай аб Кастрычніку, які нібы сымбалізаваў развой свабоднай народнай творчасьці, на самай справе павяла зь ей самае жорсткае і ўпартае змаганьне, вядучы лінію на поўнае зьнішчаньне пераважнай часткі народных цыкляў і жанраў. Асабліва гэта адбілася на тых, што ў сваёй аснове мелі рэлігійна-маральны зьмест: батлейкі, духоўныя вершы, паданьні, сьвяточна-абрадавыя творы і г. д. З такім зьместам народная творчасьць была ня толькі няпрымальнай для савецкай улады, але і паўставала, як варожае зьявішча для яе. Высокая хрысьціянская маральнасьць беларускага народнага мастацтва, яго свабоднае нараджэньне і разьвіцьцё, яго моцная нацыянальная своеасаблівасьць, — усё гэта выразна супярэчыла атэістычнай, бязбожнай, прымусовай і «інтэрнацыяналістычнай» палітыцы бальшавікоў у мастацтве. Больш таго — выкрывала гэтую палітыку. У руках панучай ўлады было шмат сяродкаў і магчымасьцяй, каб прынесьці народнай творчасьці цяжкія і балючыя раны. Справа даходзіла або да поўнай забароны выкананьня няўгодных партыі (галоўным чынам рэлігійна-маральных) твораў, або хвальшаваньня іх, перарабкі тэкстаў, пазбаўленьня нацыянальных своеасаблівасьцяў і русыфікацыі прыёмаў выкананьня й апрацоўкі. Фіналам падобных прымусовых высілкаў савецкае ўлады сталася ей-жа створаная ілжывая «тэорыя» аб адміраньні ў падсавецкай Беларусі старавечнага мастацтва. Трэба сказаць, што таталітарная ўлада тое-сёе тут запраўды дасягнула, але гаварыць аб поўным посьпеху кіраўніцтва ў вынішчаньні было б памылковым. Да гэтага яно і ня дойдзе. Беларускі народ і пад саветамі здолеў захаваць чысьціню сваей душы, а значыцца і чысьціню свайго народнага мастацтва, як выраз душы народу, здолеў захаваць любасьць, пашану, прывабнасьць і вернасьць сваім старавечным абрадам, звычаям, быту, гульням, песьням, скокам. Уся савецкая беларуская прэса напоўнена абаронай, жыцьцесцьверджаньнем нацыянальнай спадчыны, пры чым у абароне яе прыймаюць удзел і падсавецкія вучоныя, творцы і крытыкі. Традыцыйная народная творчасьць прабіваецца праз усе прапоны і рагаткі і ўсё гучней і мацней і шырэй уваходзіць у жыцьцё народу. Што датычыць рэлігійна-маральных цыкляў і жанраў, дык яны як і сама хрысьціянская рэлігія пераможна змагаюцца з матарыялістычным, атэістычным векам. Тым ня менш становішча нацыянальнай культуры ў БССР яшчэ вельмі цяжкое, напружанае і небясьпечнае. І з гэтым трэба лічыцца.

Усё вышэй адзначанае непасрэдна датычыць і нашай палітычнай беларускай эміграцыі. падсказвае нам чыны й дзеяньні. Заданьні гэтыя складаныя, але вялікія і пачэсныя. Мы павінны захаваць, прыдбаць і разьвіць народнае беларускае мастацтва, гэтыя лепшыя праявы душы народнай. Вось чаму нас ня могуць ня цешыць, ня радаваць існаваньне на эміграцыі такіх культурных асяродкаў, як добрыя хоры ў Кліўлендзе і Чыкага. як тэатральны гурток у Дэтройце, як танцавальныя групы ў Нью-Ёрку і Кліўлендзе, як Нюёркская музычная школа, як Кліўлендзкі і Ню-Браўнсвіцкі аркестры моладзі, як і ўсе іншыя самадзейна-аматарскія гурткі, шмат якіх мы, навет, і ня ведаем. Усім іхным удзельнікам, як і ўсім тым, хто так ці йнакш спрычыняецца да вялікай працы на культурнай беларускай нацыянальнай ніве, мы мусім скласьці нізкі паклон удзячнасьці й пашаны, праняць ім славу і «Сто гадоў».

Але мы ня можам забыцца і пра тыя цяжкія ўмовы эміграцкага жыцьця і працы, у якіх даводзіцца дзейнічаць нашым прафэсыянальным і аматарскім сілам. З жалям і болям трэба сьцьвердзіць часта поўную недаацэну, раўнадушша, няўважлівасьць, незразуменьне ўсёй важнасьці й значэньня тэй справы, якую гэтыя адданыя людзі робяць. Карыстаючыся выступам з гэтай высокай грамадзкай трыбуны, я зьвяртаюся да ўсіх эміграцкіх дзейнікаў, асабліва да прадстаўнікоў нашага беларускага духавенства з настойлівай просьбай прыняць пад апеку мастацкую народную дзейнасьць на эміграцыі, накіраваць сюды ўвагу, дапамогу, падтрымку, клопат, добрыя. зацікаўленыя адносіны, прыхільнасьць. Справа разьвіцьця народнага мастацтва — справа ўсіх нас. Памятайма, што творчасьць народная — гэта душа народу і пакуль яна жывая, жыве й народная душа.

**М. Куліковіч**

*Фэльетон*

# Даганяюць Амэрыку... з матыкамі

Прызнацца трэба, што апошнімі часамі савецкія газэты робяцца ўсё больш цікавымі. Пэўна-ж, асноўнае месца, як і раней, у іх прысьвячаецца выдушваньню апошніх сілаў зь бяздольных калгасьнікаў, падганяньню да новых «подзвігаў», да «сустрэчы з уздымам у прадукцыі XXII-га зьезду КПСС», да партыйнай і грамадзкай «бдзіцельнасьці» (не прачытайце блага!) і інш. Але шырэе апошнімі часамі ў прапагандовай газэтнай барабаншчыне й іншы аддзел — прысьвечаны крытыцы, ці, як можна было-б яго назваць, — аддзел, дзе можна знайсьці самыя характэрныя цымусы кульгавай гаспадарчай бальшавіцкай машыны.

Вось возьмем нумар «Звязды» за 9-га чэрвеня сёлета. На першай бачыне ўнізе «орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай Партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР» паведамляе ўсю «сувэрэнную й незалежную» аб . . . «стаўцы . . . на матыку».

Неяк зайшоў да мяне на днях сябра й пытаецца, што чуваць.

— Эгэ, брат, — кажу, — не ўгадаеш аніяк. Вунь якія навінкі. Купіў я «Звязду». І што ты думаеш знайшоў на самым цэнтральным месцы на першай бачыне? Ну? Так і ведаў, што не ўгадаеш. Цэлы артыкул і ілюстрацыю, як з матыкамі даганяюць Амэрыку.

— Чалавек! Ты, мусіць, апупеў! — едка абрэзаў мяне сябра, не мірганууўшы навет вокам.

— На глядзі, — тыцнуў я яму газэту пад нос.

Пабачыў, і сваім вачам ледзь паверыў.

Выяжджае г. зв. «рэйдавая брыгада» «Звязды» ў складзе 27-мі чалавек у Берасьцейшчыну на «праверку догляду пасеваў» (цытуем за «Звяздой» — М- К-р). І раптам знаходзяць адзін калгас дзе тэхнікі «. . . . хапае. Але на палях гаспадарыць матыка, а адзін з трактароў, які спэцыяльна вызначан для працы на кукурузных палетках, прастойвае на цэнтральнай сядзібе».

І чаму-ж ён прастойвае?

— «Няма пакрышак, латаем старызну, — скардзіцца трактарыст Віктар Замкавец, а на ёй многа не папрацуеш. Гаварылі ж брыгадзіру трактарнай брыгады Канстанціну Федзюковічу, ды дзе там! Ён і ў вус ня дзьме. Цэлымі днямі завіхаецца на будаўніцтве свайго дому. Адмахваецца ад нас і старшыня».

Дык можа гэта так адно ў калгасе «Шлях Леніна»? Няма так добра.

«На вялікі жаль, — паведамляе «рэйдавая брыгада», — стаўка на матыку, на ручную працу робіцца і ў іншых гаспадарках».

Сьціпла сказана. Меркаваць можна, што матыка цяпер вельмі папулярная на калгасных палёх. І так складаецца цэлы камплет. Галоўны цяглавік — зацяганы Сіўка, асноўная сіла на праполцы «каралевы палёў» і цукровых буракоў — матыка ў руках перапрацаваных жанчын, якія, паводля савецкай канстытуцыі . . . «имеют право наравне с мужчинами к труду и отдыху», г. зн. працуюць у гарадох мулярамі, тынкоўшчыкамі, паяльшчыкамі, а ў калгасах цягнуць самае цяжкое ярмо. Што й гаварыць. Роўнае права. Але аб гэтым мо іншым разам.

Як відаць, у калгасах ува ўсім вінаватыя трактары, дакладней кажучы, недахоп «запчасьцяў» — і «цехніка стаіць». Выручае Сіўка й матыка. Коратка й ясна.

Калі нядаўна Мікіта сустрэўся з Джэкам у Вене, гутарка была, між іншага, і аб кукурузе. Калі Дын Раск сказаў курскаму карыфэю, што бальшавіком далёка яшчэ да таго, каб выгадаваць такую кукурузу, як у Амэрыцы, Мікіта ўзгарэўся. — Пачакайце, цяпер мы яшчэ ня можам. У нас не хапае машын і ўгнаеньняў. Як яны будуць, то мы Амэрыку і ў кукурузе пахаваем!

Го! Го! Мікіта фасон трымае, што й гаварыць. Ды што з тых машынаў, калі-б яны й былі, калі да іх «запчасьцяў» ня будзе . . . А як ня ўродзіць «каралева палёў», дык адкуль будзе ўгнаеньне, га?

Коратка гаворачы, Мікіта, мусіць не давядзецца табе Амэрыку хаваць у кукурузе. Хутчэй табе ад кукурузы хаўтуры будуць!

**Міхась Козыр**



**Трактар у полі для прыліку — налягаюць на матыку. І няўцям тут старшыні: дзе дзяюцца працадні?**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski,** 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**